



# Ніва

Тыднёвік Беларускага грамадска-культурнага таварыства

№ 17 (948) ГОД XIX БЕЛАСТОК 28 КРАСАВІКА 1974 г. ЦАНА 60 гр.




Крыстына Сянкевіч за ткацкім станком (да фотарэпартажа „У дружнай сям'і васількоўскіх тэкстыльшчыкаў“, стар. 3).

Нашы ІНТЭРВ'Ю

## СЕЛЬГАСГУРТКІ НА НОВЫМ ЭТАПЕ

Нядаўна адбыўся IX Ваяводскі з'езд дэлегатаў сельскагаспадарчых гурткоў Беласточчыны. У сувязі з гэтым папрасілі мы старшыню праўлення Ваяводскага саюза сельгасгурткоў, **Мар'яна Куклю,** каб расказаў нам пра справы, якія вырашаліся на з'ездзе.

— Таварыш старшыня, што ў даны момант прадстаўляе сабой ваша грамадская арганізацыя?

— У лікавым адлюстраванні на канец мінулага года гэта: звыш 2.800 сельскагаспадарчых гурткоў, якія аб'ядноўваюць амаль 164 тысячы членаў і звыш 3 тыс. гурткоў вясковых гаспадынь, у якіх дзейнічае больш чым 72 тыс. жанчын. Наша арганізацыя ахоплівае сваёй дзейнасцю 90 прац. вёсак Беластоцкага ваяводства і 64 прац. сялянскіх гаспадарак. Найбольш членаў маем у Бельскім павеце. Другое месца па колькасці членаў займае Беластоцкі павет...

— Выбачайце, ад колькасці важнейшая эфектыўная дзейнасць.

— Калі сельскагаспадарчай тэхнікі накаплялася ў паасобных гуртках усё больш, кіраванне ёю на грамадскіх пачатках станавілася ўсё болей не пад сілу сялянам, занятым уласнымі гаспадаркамі. Тады ўзнікла ідэя, каб у сельскагаспадарчых гуртках устанавіць штатных дыспетчараў. Пасля мы рашылі аб'ядноў-

(Працяг на стар. 2)



Алея 1 Мая ў Беластоку. Фота Я. Цялушэцкага

Новыя вершы

**Вітаўтас Рудокас**

●
● ●

Шар зямны, бы залатое яблыка,
Што з Алімпа кінулі багіні:
Людзі верылі сардэчным заклікам,
Не адна ў стагоддзях Троя гіне!
Не прынеслі шчасця, чалавечнасці
Меч Атылы і страла Батыя.
І свабоду засланіць ад нечысці
Клікалі салдат званы святыя.
О, Зямля! А ўсё ж такі ты круцішся
(Што было вядома Галілею!).
А скажы, чаму сягоння смуцішся?
Ты ў пажарышчах няўжо сатлееш?
Хай не будзе болей войнаў, зайздрасці!
Хай не гінуць людзі ў страшным віры!
Будзь жа ты, Зямля, планетай радасці,
Дзе расце ўсё вышэй дрэва Міру!

*Пераклаў М. Базарэвіч*

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У "Ніве"



ЛЮДЗІ XXX-ГОДДЗЯ

## КРОЎ З КРЫВІ РАБОЧЫ

Задумаў я напісаць першамайскі рэпартаж пра сучаснага рабочага.

Шукаючы героя да свайго рэпартажу, трапіў я да **Тадэуша Пшыбыша** з прадпрыемства хімічнай перапрацоўкі драўніны, якое ў Гайнаўцы па традыцыі ўсе называюць хімічнай фабрыкай. Трапіў я да яго па рэкамендацыі таварышоў з павятовага камітэта партыі.

— Гэта кроў з крыві рабочы, — гаварыў мне сакратар прапаганды, тав. Карпюк. — За ім шматгадовы стаж працы, ён заўсёды праяўляе вялікую грамадскую актыўнасць...

Крыху пазней падобныя выказванні пра Тадэуша Пшыбыша пачуў я ад галоўнага дырэктара хімічнай фабрыкі Лешка Камінскага.

— Тадэуш Пшыбыш, — сказаў ён, — працуе тут ад 1940 года. Ён заўсёды працаваў так выдатна і сумленна, што мы ставілі яго ў прыклад іншым. Дзяржава адплачвала яму шматлікімі ўзнагародамі. Наш герой уганараваны: Медалем дзесяцігоддзя ПНР — у 1955 г., Сярэбраным крыжам заслугі — у 1956 г., Залатым крыжам заслугі — у 1964 г., Сярэбранай адзнакай імя Янка Красіцкага — у 1964 г., адзнакай „Заслужаны Беласточчыне“ — у 1970 г. і Крыжам кавалерскім Ордэна „Паленія Рэсцітута“ — у 1971 годзе.

Шматгадовы старшыня завадскога савета прафсаюзаў Язэп Фігляж сказаў мне пра Тадэуша Пшыбыша:

— Я знаёмы з ім ужо амаль 20 гадоў. Яго бацька працаваў тут ад пачатку існавання хімічнай фабрыкі, яго брат, Стэфан, з'яўляецца ў нас выдатным спецыялістам, а другі брат, Эдвард, працуе разам з Тадэушам ад 1947 года. І сын — Язэп Пшыбыш, слесар па прафесіі, таксама пайшоў следам бацькі і працуе ў завадскім рамонтным аддзяленні хімічнай фабрыкі.

Значыць, сямейныя традыцыі. А жонка Тадэуша Пшыбыша яшчэ мне дабаўляе, што і яна сама, і яе бацька доўгі час таксама працавалі ў хімічнай фабрыцы.

— Бацька мой, — кажа пані Пшыбышова, — загінуў у гэтай фабрыцы. Было гэта ў час акупацыі, калі больш ад жыцця рабочых лічылася каштоўная прадукцыя.

Думаю: што вабіць гэтых людзей з пакалення ў пакаленне ў хімічную фабрыку, у якой няма лёгкай працы і высокіх заработкаў?

— Такая ўжо ў нас **рабочая** традыцыя, — гаварылі мне ў адказ, а іншыя яшчэ дабаўлялі: — Хімічная — наш дом, які б ён не быў, але ён наш, уласны...

Што ж, варта паглядзець гэты **„дом“.**

(Працяг на стар. 4)

## БГКТ ХРОНІКА

■ Многа каштоўных ініцыятываў, многа грамадскіх чынаў паднімаецца членамі беларускага таварыства ў юбілейным годзе Народнай Польшчы. У нядзелю 7 красавіка па ініцыятыве актывіста гданьскага аддзела БГКТ Эдварда Шафаловіча адбыўся грамадскі чын пры пасадцы альшыны ў лясніцтве Гданьск-Собяшэва. Працавала 150 чалавек, у гэтым шмат членаў БГКТ гданьскага аддзела. У арганізатарскай працы праявіў шмат ахвярнасці сябра Сяргей Новік.

■ 16 красавіка адбылося пленарнае пасяджэнне сямяціцкага праўлення аддзела БГКТ, прысвечанае абмяркоўцы праграмы святкавання XXX гадавіны Народнай Польшчы. З праграмным дакладам на гэтую тэму выступіў сакратар праўлення аддзела Міхась Вішанка. У дыскусіі выступілі — Міхась Волчык, Кастусь Пытлюк, Мікалай Турык і Янка Вішанка. Гаварылі яны аб неабходнасці арганізавання і ўдзелу ў грамадскіх чынах, аб арганізаванні культурных мерапрыемстваў, у гэтым ліку і народнага фэстыну БГКТ, аб сустрэчы з ветэранамі рабочага руху і арганізатарамі народнай улады ў Сямяціцкім павеце, аб супрацоўніцтве з іншымі арганізацыямі, аб добрай сельскагаспадарчай вытворчасці членаў таварыства і аб ліквідацыі імі саламяных стрэх у вёсках. Дыскусію падсумаваў сакратар ГП БГКТ Янка Зенюк. Вёў пленум старшыня аддзела Анатоль Мартыновіч.

■ На 16 красавіка было склікана таксама пленарнае пасяджэнне беластоцкага павятовага праўлення аддзела. Вёў пленум старшыня праўлення аддзела Янка Цялушэцкі. Сакратар праўлення аддзела — Яўгенія Іванюк прадставіла прысутным праграму святкавання юбілею нашай краіны. У праграме вялікую ўвагу звяртаецца на развіццё палітычнай і прадукцыйнай ініцыятыўнасці членаў БГКТ, на іх удзел у „зялёных нядзелях“ пасадкі лесу, у конкурсах „Беластоцкая вёска гаспадарная і культурная“, „Ад чысціні да гаспадарнасці“ і „Жыхары свайму гораду“. Падкрэсліваецца моцна неабходнасць прыкласці максімум намаганняў дзеля ліквідацыі саламяных стрэх на будынках і развіцця жывёлагадоўлі. Запланавана ва ўсіх гуртках БГКТ Беластоцкага павету адбыць сходы з юбілейным дакладам. Гурткі БГКТ будуць арганізатарамі і суарганізатарамі ўрачыстых вечарын, акадэмій, спатканняў з арганізатарамі народнай улады. Усюды на такіх мерапрыемствах адбудуцца мастацкія выступленні нашых самадзейнікаў. Вечары песні і паэзіі, згадуй-згадулі, выстаўкі, фота-выстаўкі, прысвечаны юбілейнай даце. Пад лозунгам „XXX год Народнай Польшчы“ адбудзецца ў Рыбаках народны фэстын БГКТ. Супольна з інспектаратам асветы будзе праведзены школьны песенны конкурс.

У дыскусіі Хведар Садоўскі, Ніна Мушынская, Янка Цялушэцкі, Янка Фідзюкевіч, Валя Філіпюк і старшыня рэвізійнай камісіі ГП БГКТ Міхась Хмялеўскі гаварылі аб добрых і цікавых пачынаннях некаторых членаў БГКТ і гурткоў, якія прычыняюцца да развіцця культуры ў паасобных мясцовасцях. А гэта датычыць членаў БГКТ з Баброўнікаў, Гарадка, Міхалова і Васількова. Шкада толькі, што многія члены праўлення аддзела не прысутнічалі ў гэтым цікавым пасяджэнні. (мх)





**КАРЭСПАНДЭНЦЫЯ З ГРОДНА**

## ДОБРЫ ПАЧАТАК

„Прынёманскія галасы“ — такую назву атрымала літаратурнае аб'яднанне, створанае пры Гродзенскім педагагічным інстытуце.

Трэба сказаць, што шмат год у інстытуце існаваў гурток „Маладыя галасы“, якім кіраваў дацэнт кафедры рускай літаратуры Н. А. Нікіцін. Аб гуртку з удзячнасцю ўспамінаюць выпускнікі інстытута. Аднак паступова праца заглохла — вельмі малы быў прыплыў моладзі.

Цяпер жадаючых паспрабаваць свае сілы ў літаратурнай творчасці аказалася дастаткова. Шматлікія студэнты пішуць вершы, апавяданні, супрацоўнічаюць з рэдакцыямі газет.

Мы аб'ядналіся не проста з жадання займець аўдыторыю, гатовую выслухаць. Збіраючыся, члены аб'яднання будуць абмяркоўваць сваю творчасць, працаваць над павышэннем яе якасці і значэння, спрачацца, дапамагаць адзін другому, — аб гэтым гаварылася на арганізацыйным пасяджэнні.

## ДЛЯ ВЁСКІ

Калектывы рамонтнікаў, механізатараў, іншых служб абласнога аб'яднання „Сельгастэхніка“ прыклалі ў трэцім, рашаючым годзе пяцігодкі нямала намаганняў, каб працаўнікі вёскі змаглі паспяхова выканаць свае планы.

Найлепшых паказчыкаў дабіўся калектыў Мастоўскага раённага аб'яднання „Сельгастэхніка“. Тут добра арганізаваны службы тэхнічнага абслугоўвання механізмаў на фермах калгасаў і саўгасаў, рамонту і догляду за аўтамабілямі, камплектнай дастаўкі новай тэхнікі ў гаспадарствы і г.д. Кваліфікаванаму рамонту аўтамашын у немалой ступені садзейнічае абсталяваны прыладамі пункт дыягностыкі. На гэтым здымку вы бачыце ля выканаўчага стэнда дыягноста Юрыя Сардэчнага за праверкай працы рухавіка аўтамабіля ГАЗ-53.



Фота Я. Краўчанкі.

## СЕЛЬГАСГУРТКІ НА НОВЫМ ЭТАПЕ

(Працяг са стар. 1)

ваць паасобныя гурткі ў міжгурткоўскія трактарныя базы, якія папулярна называем МБМ-амі. Цяпер і гэта сістэма механізацыі вясковай вытворчасці патрабуе карэнных змен, бо шпаркае гаспадарчае развіццё нашай вёскі (27 прац. прыросту агульнай сельскагаспадарчай прадукцыі ў 1971—73 гадах) высоўвае новыя патрабаванні ў наш адрас. Мяркуем, што задаволяць іх спулдзельні сельскагаспадарчых гурткоў. У Беластоцкім ваяводстве дзейнічаюць ужо 34 такія спулдзельні.

— Што гэта такое?

— Спулдзельня сельскагаспадарчых гурткоў з'яўляецца добраахвотным аб'яднаннем паасобных гурткоў з тэрыторыі адной гміны. Кожная спулдзельня будзе мець уласную добраабсталяваную тэхнічна-рамонтную базу, а дзейнасць спулдзельні будуць вызначаць прынцыпы навуковай арганізацыі працы. Гэта цэнтральнае кіраўніцтва, адна бухгалтэрыя, агульны склад запасных частак і т.п. **Спулдзельні сельскагаспадарчых гурткоў забяспечваюць грамадскае ўладанне асноўнымі сродкамі сельскагаспадарчай вытворчасці ва ўмовах прыватнай уласнасці на зямлю.**

— Ці гэта абазначае, што ўжо канчаецца жыццё цяперашніх сельгасгурткоў, МБМ-аў і ПОМ-аў?

— У нейкім сэнсе — так. Гурткі і МБМ-ы паступова — на працягу некалькіх бліжэйшых гадоў — будуць пераўтварацца ў прадпрыемствы або пункты спулдзельняў, дзе сяляне змогуць аформіць усе свае патрэбы. ПОМ-ы таксама шматзначна зменяць характар дзейнасці, бо асноўныя рамонты сваёй тэхнікі спулдзельні будуць праводзіць у сябе на месцы.

— Пры новай арганізацыйнай структуры сельгасгурткоў як маеце намер гаспадарыць на дзяржаўным фондзе зямлі, якога будзе ўсё больш, бо дзяржава гарантуе спрыяльныя ўмовы для тых сялян, якія захочуць пазбыцца гаспадарак узамен за пенсію.

— Будуць створаны самастойныя гаспадарчыя адзінкі — **калектыўныя сельскія гаспадаркі** — з уласным загадчыкам і неабходным абсталяваннем.

— У пагоні за рэнтабельнасцю сельгасгурткі рабілі дагэтуль усё, каб не рабіць у полі...

— Цяпер гэта зменіцца. Дзяржава гарантуе сельгасгурткам самую вышэйшую даплату за палявыя работы, а перш за ўсё за хімічную праполку пустазелля, рассяванне вапны і іншых мінеральных угнаенняў.

— Ці ў сувязі з павышэннем цаны на гаручае сяляне таксама плоцяць цяпер павышаныя цэны за гурткоўскія паслугі?

— У ніякім выпадку. Павышаныя кошты абслугі сялян дзяржава ўзяла на сябе.

— Ці селянін можа дагаварыцца з вашымі гурткамі, або з гурткоўскай спулдзельняй на комплекснае выкананне паслуг на працягу цэлага года?

— Так, ёсць такая магчымасць. Праекты такіх дагавораў мы ўжо разаслалі нашым арганізацыйным адзінкам. Яны між іншым прадугледжваюць высокае грашовае пакаранне ў выпадку невыканання дагаворных паслуг.

— Нядаўна было аб'яўлена, што работнікам сельскагаспадарчых устаноў і арганізацый павышаецца заработная плата.

— Мы з удзячнасцю вітаем гэту важную пастанову нашага ўрада і партыі. **Цяпер працаўнікі сельскагурткоўскіх устаноў будуць зарабляць па 300-400 зл. у месяц больш.** Урэшце трактарыстам аплоціцца ў нас працаваць. Адначасова стараемся палепшыць для іх сацыяльныя ўмовы.

— Ці сельгасгурткі маюць свой удзел у ажыццяўленні лозунга „мільён“?

— Так, хаця пакуль што скромны, але праграма на наступныя гады прадбачвае шырэйшае развіццё гурткоўскай жывёлагадоўлі.

— Дзякую за размову.

Інтэрв'ю правёў
Віктар Рудчык

## TELEWIZJA WARSZAWA

**Niedziela 28.IV.** 6.40 Techn. Rol. Chemia. 7.10 J. pol. 7.40 Kurs Rol. 8.25 Nowoczesność w domu i zagr. 8.45 Bieg po zdrowie. 8.55 Progr. dnia. 9.00 TELERANEK. 10.20 Ex libris. 10.30 Pr. film. 11.00 Klub Sześciu Kont. 11.40 Muzy bez etatu. 12.10 Dziennik. 12.30 Pr. wiejski. 12.45 Radar. 13.00 W starym kinie. 13.45 Przegląd polonijny. 14.10 Dla dzieci: Czarodziejski kwiat — film fab. radz. 15.20 Nie tylko dla Pań. 15.45 Los. Tot. 15.55 Bank miast. 16.55 Co kto lubi. 18.00 Refleksje obywatelskie. 18.15 Bank miast. 18.25 II. poł. meczu piłki nożnej. Gwardia-Legia. 19.15 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Bank miast. 20.30 Odyseja — film fab. wł. 21.20 Bank miast. 21.30 Samochód dla najlepszego. 22.20 Sport. 23.20 Dobranoc dla dorosłych.

**Poniedziałek 29.IV.** Tech. Rol. Hodowla zwierz. 13.25 Mat. 15.40 NURT — Ekonomia. 16.10 Pr. dnia. 16.15 Oferty. 16.30 Dziennik. 16.40 Zwierzyniec. 17.30 Echo stad. 17.55 Kurier. Biał. 18.10 Humoreska taneczna. 18.25 Kronika Warsz. i Maz. 18.45 Gigant. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Teatr TV: Z. Skowroński — Dekret. 21.30 Lotny finisz. — film. — 21.50 Gra A. Korsakow. 22.10 Dziennik.

**Wtorek 30.IV.** 6.30 Techn. Rol. Hodowla zwierz. 7.00 Mat. 9.05 Odyseja — film. fab. wł. 10.00 Siedemnaście mgnień wiosny — film. radz. 13.45 Techn. Rol. Mat. 14.30 Uprawa roślin. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla dzieci: G. Morcinek — O królu Kalasantym, Hanusi i zaczarowanym królewiczu. 17.05 Spacerkiem po kinach. 17.30 Tyg. Inf. Młodych. 17.55 Kronika Warsz. i Maz. 18.15 Koncert. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Siedemnaście mgnień wiosny. 21.30 Sport. 21.35 Z najlepszymi życzeniami. Scenariusz i reż. — J. Michotek. 22.45 Dziennik.

**Środa 1.V.** 7.35 Pr. dnia. 7.40 Dziennik. 7.55 Transmisja z uroczystości 1 Majowej w Moskwie. 8.45 Sylwetki pop. ludzi. 9.20 Polska w maju. 9.55 Transmisja z uroczystości 1 Majowych z Warszawy i innych miast Polski. 13.45 Z wizytą w Hucie Katowice. 14.30 Kino Skrzat. 15.10 Los. Mał. Lot. 15.20 Transmisja imprez 1 Maj. 17.40 Bieszczady — rep. film. 18.40 Spotkanie z „Dwa plus Jeden” 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.30 Janosik — odcinek filmu TVP+ dyskusja. 21.45 Canzonissima — prog. rozr. wł. 22.25 Sport.

**Czwartek 2.V.** 10.00 Dla szkół: (kl. II lic.). J. pol. — Bolesław Prus. 10.30 Telefon 110. 12.00 Dla szkół: (kl. VIII) J. pol. Hist. książki. 13.45 Tech. Rol. Hodowla zwierz. 14.30 Mech. rol. 15.05 Mat. w szkole. 16.10 Pr. dnia. 16.15 Inf. Tow. Prop. 16.30 Dziennik. 16.40 Ekran z bratkiem. 17.40 Z teki folk. A. Dygacza. 18.15 Kronika Warsz. i Maz. 18.35 Zapraszamy do „Poloneza” — rep. 18.55 TEST — Inwestycja. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Telefon 110. 21.25 Sport. 21.35 Czym żyje świat. 22.05 Pr. rozr. 22.35 Dziennik. 22.50 Inf., Tow., Prop.

**Piątek 3.V.** 6.30 Techn. Rol. Hodowla zwierz. 7.00 Mech. rol. 9.30 Sztuka inkrustacji — film. dok. 9.40 Film. 11.05 Dla szkół: (kl. VII) Wych. ob. 12.00 Dla szkół: (kl. III) Spotkanie z Autorem — A. i Cz. Centkiewiczowie. 12.45 Techn. Rol. J. pol. 13.25 Chem. 14.40 Politechn. Kurs przygot. 15.15 Praca kontrolna 15.55 NURT — Filozof. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Pora na Telesfora. 17.20 Wych. fiz. receptą na zdrowie. 17.45 Tyg. Inf. Mł. 18.00 Dla młodzieży: Dwie szkoły — telekonkurs. 18.25 Kr. Warsz. i Maz. 18.45 Ludzie nauki — prof. dr L. Marconi. 19.10 Przyp., radz. 19.20 Dobranoc 19.30 Dziennik. 20.20 Film. 20.50 Panorama. 21.30 Sport. 21.35 Teatr TV na świecie: O. Wilde — Mąż idealny — spektakl TV Ang. 23.00 Dziennik.

**Sobota 4.V.** 6.30 Techn. Rol. J. pol. 7.00 Chem. 9.15 Wszystkie mu ulegają — film fab. ameryk. 11.05 Dla szkół: (kl. VIII) Geogr. — Gospodarka rolna w Polsce. 13.45 Techn. Rol. J. pol. 14.30 Botanika. 15.30 Pr. dnia. 15.35 Pr. I proponuje. 15.50 Red. Szk. prop. 16.05 Inf. Wyd. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla dzieci: Sobótka. 17.00 Turniej sportów obronnych. 17.30 Szare na złote. 18.00 Z kamerą wśród zwierząt. 18.30 Pegaz. 19.20 Dobranoc. 19.30 Monitor 20.20 Wszystkie mu ulegają — film. fab. ameryk. 22.10 Dziennik. 22.30 Sport. 22.40 Piosenki z polskich musicali.

## ТЭЛЕВІЗІЯ МІНСК

**Piątek, 26.IV.** 16.15 Dla dzieci. 16.50 Film. fab. 19.45 Wszechzwiązkowy konkurs młodych wykonawców. 21.10 Sport.

**Sobota, 27.IV.** 7.00 Pr. dnia. 7.45 Przegląd międzynar. 11.00 Koncert. 14.00 Film anim. 14.45 Koncert życzeń. 17.30 Piosenka — 74. 18.00 Piłka nożna. Dynamo (Kijów) — Ararat (Erywań) 2 poł. 19.45 Koncert. 21.15 Sport.

**Niedziela, 28.IV** 7.00 Pr. dnia. 10.30 Konkurs dla dzieci. 11.30 Film fab. 13.45 Białoruś literacka. 15.00 Panorama międzynar. 15.30 Wesoły korowód. 16.15 Filmy anim. 16.45 Klub film. 17.45 Wieczór autorski A. Safronowa. Trans. z Sali Kolumnowej. 19.00 Czas. 19.30 c. d. transmisji. 20.30 Sport.

## КІНО

**Białowieża** Bez wyraźnych motywów — franc. 30.IV—1.V. Śladem czarnowłosej dziewczyny — jugosł. 2—3. Gorący śnieg — radz. 4—5.V.
**Czeremcha** Posag księżniczki Ralu — rum. 30.IV—1.V. Zdradzieckie gry miłosne — czes. 4—5.V.
**Czyże** Dziewczyna z gór — jug. Szatnia pełna królików — węg. 1—5.V.
**Dubicze Cerkiewne** Sekret — pol. Pogromca zwierząt — rum. 1—5.V.
**Gródek** Jaskółki — węg. 4—5.V.
**Kleszczele** Na torze czeka morderca — czes. 30.IV—1.V. Ned Kelly — angl. 2—3.V. „Łobuz” — franc. 4—5.V.
**Michałowo** Simon Boliver — hisz. 30.IV.—1.V. Walter broni Sarajewa — jug. 2—3.V. Tydzień szaleńców — rum. 4—5.V.
**Mielnik** Ostatnie wakacje — radz. 30.IV—1.V. Zwali go Al Capone — jug. 2—3.V. Setafino — włos. — 4—5.V.
**Milejczyce** Rondo — jug. 30.IV.—1.V. Front wyzwolenia — pol. 2—3.V. Królowe Dzikiego Zachodu — fran. 4—5.V.
**Narewka** Spotkanie ze szpiegiem — pol. Sobótki — pol. 1—5.V.
**Narew** Ostatni watażka — bułg. Roztargniony — fran. 1—5.V.
**Nurzec** Tygrysiątko — bułg. 30.IV—1.V. Królowe Dzikiego Zachodu — fran. 2—3.V. Bułeczka — pol. 4—5.V.
**Orla** Pechowy zalotnik — radz. Śladem czarnowłosej dziewczyny — jug. 1—5.V.
**Rajsk** Cudowny kożuszek — węg. Rewizja osobista — pol. 1—5.V.
**Suchowola** Wykryć szpiega — radz. Poczekam aż zabijesz — czes. 1—5.V.

# БОЛЬШ УВАГІ І ДАПАМОГІ!

На цэнтральным аглядзе 31 сакавіка г.г. у Беластоку было шэсць беларускіх самадзейных тэатральных калектываў. Колькасць гэта значная, а зусім выпадковы збег акалічнасцей хацеў, каб яны прадстаўлялі якраз асноўныя віды нашай тэатральнай самадзейнасці і яе тыповы рэпертуар.

У выканаўчым узроўні паміж паасобнымі калектывамі заўважалася значная розніца. Усё гэта дае падставы да сфармулявання некалькіх, на нашу думку важкіх, заўваг у адрас беларускага самадзейнага тэатральнага руху.

Было б пераўвелічэннем сказаць, што нашы драмгурткі маюць вялікі выбар разнастайных па зместу і па форме п'ес, але ўсё ж на працягу васемнаццаці год сваёй дзейнасці Беларускае грамадска-культурнае таварыства ў суме выдала каля 30 сцэнічных твораў у паасобных зборніках, календарах, на шклографе (павелячы). Гэта не мала, і шкада, што нашы самадзейнікі не выбіраюць з іх больш вартасныя п'есы, чым „Мікітаў лапаць" ці „Боты". Напэўна, нашым драмгурткам патрэбны свежы і лёгкі рэпертуар, у якім знайшла б адлюстраванне наша сучаснасць. Поспех п'есы С. Яновіча „Не пашанцавала" павінен заахвочваць беластоцкіх аўтараў да больш плённай творчасці ў гэтым напрамку.

Дзіўна, але нашым самадзейнікам чамусьці не хапае адвагі звярнуцца да тэатра паэзіі. Гэта вельмі ўдзячная форма сцэнічнага мастацтва. Яна дае вялікія магчымасці выявіць свае здольнасці дэкламатарам, дастаўляе неабмежаваны выбар тэм, аблягчае музычнае афармленне (магнетафон, праігрывацель), не вымагае абшырнай сцэны і багатай дэкарацыі. А з твораў Я. Купалы, Я. Коласа, М. Танка і іншых беларускіх паэтаў і празаікаў можна рабіць дасканалыя пастаноўкі!

Фальклорныя калектывы зачароўваюць гледача сваёй арыгінальнасцю, аўтэнтызмам, красачнасцю народных убораў і мелодыямі мясцовых песень. І ўсё ж прыдалося б, каб яны звярнулі большую ўвагу на вяжучае слова ды адважней уводзілі сюды народныя гумарыстычныя сцэнкі, жывыя дыялогі, анекдоты і жарты.

Наогул жа ўсе нашыя тэатральныя калектывы пазбаўлены якой-колечы працы інструктараў-спецыялістаў па тэатральнаму мастацтву. Амаль нічога ў гэтым напрамку не робяць ні Ваяводскі дом культуры, ні павятовыя дамы культуры ці павятовыя парадні.

Словам, нашы самадзейныя тэатральныя калектывы патрабуюць больш увагі і дзейснай прафесіянальнай дапамогі.

**Ігнат Снарскі**




## Выбары солтыса

Солтыс у Задрыпанцы — го, го — фігура! Абмінеш — тут табе і капцы, усё роўна, што парушыў закон. Сядзі тады і не рыпайся.

— Люблю парадак, — кажа солтыс, і хто без яго благаславення стане перад яснымі вачыма начальніка гміны, той парушае парадак (без пропуску ў рай?). Такі ў нашага солтыса закон.

Задрыпанцы паважаюць законы, шануюць іерархію, таму ў нашага солтыса нос фіялетавы. Ён (нос) і пасеяў у нас смуту. Пакуль у солтыса нос быў чырвоны, начальства цярпела, фіялетавага даравань ужо не магло: у новых солтысаўскіх выбарах у спіску кандыдатаў фігуравалі аднавяскоўцы (трое) са здаровым колерам насоў.

Ды насам гэтым не дадзена было згуляць станоўчай ролі. На выбарным сходзе кандыдаты адмовіліся ад адказнай пасады. Паколькі такой сітуацыі ніхто не прадбачыў (каб трое адмовіліся!) і іншыя патэнцыяльныя кандыдатуры не былі пракансультаваны, задрыпанская ўлада апынулася на бруку (калдобістым).

Падняў яе (ўладу) Мікола — стары солтыс, і гэткім чынам выратаваў Задрыпанку ад безуладдзя. Аднак грамадзянскі подзвіг Міколы не рассеяў у ясных начальніцкіх вачах суму па прычыне колеру солтысавага носа: быў назначаны новы тэрмін выбараў. Не ведаў аднак новы начальнік задрыпанцаў. На перавыбары (ха-ха!) не прыйшлі выбаршчыкі. З'явілася толькі трое (зноў трое!) сябрукоў Мікалая (ці не цудатворца?) з не менш фіялетавымі насамі, чым іх духоўны бацька.

І па прычыне, што і раней, улада засталася ў руках старога солтыса. Ці надоўга?

— Заданне амбітнае, але рэальнае, — кажа солтыс. Яго аблічча, згашанае выбарчай мітуснёй, зноў набыло ўладны выгляд, а фіялет носа прыкметна згусцеў...

Дык каб не апошні!

**ДЗЗ**

## НАСТАЎНІКІ РАЗВІВАЮЦЬ СВАЕ ЗДОЛЬНАСЦІ

Настаўніцкі клуб у Гайнаўцы вядомы сваёй актыўнай дзейнасцю. Згуртоўвае ён усіх тых настаўнікаў, якім неабыякава справа развіцця сваіх здольнасцей у напрамку дэкламатарства, жывапісу, музыкі, паэзіі, фатаграфіравання, фільмавання, тэатру і г.д.

Вядомымі мастакамі лічацца настаўнікі-жывапісцы: Анатоль Корзун (аднядаўна член Саюза польскіх мастакоў), Віктар Кабац, Яўген Давідзюк, Янка Салаўянюк, Гражына Ватола. У дэкламатарстве, музыцы і спеве найлепшых поспехаў дабіліся настаўніцы Нэля Харкевіч і Цэліна Сакалоўская. Выступалі яны нават на цэнтральных конкурсах песні і красамоўства.

Фатаграфіраваннем і фільмаваннем з вялікім талентам займаюцца Юрка Славікоўскі і Андрэй Какоўскі.

Літаратурныя спробы робяць Галіна Кабац, Юльюш Айжаноўскі, Кіра Івашчынская, Уладзімір Мусько.

Настаўнікі з Гайнаўшчыны прымяняюць свае здольнасці ў розных галінах культуры. Не заўсёды можа маюць на гэта дастаткова часу, але робяць гэта па меры сваіх магчымасцей. Цікавых прыкладаў грамадска-культурнай дзейнасці настаўнікаў з Гайнаўскага павету не пералічыць. Мастакі працуюць бадай найбольш плённа. Доказам гэтага з'яўляюцца пастаянныя выстаўкі іх работ. Пачынаючыя пісьменнікі збіраюцца на абмяркоўку сваёй творчасці, праводзяць селекцыю тых ці іншых твораў, а затым прапануюць іх рэдакцыям літаратурных часопісаў або нават кніжных выданняў. Творчасць настаўнікаў вядома таксама рэдкалегіі беластоцкага карэспандэнцыйнага клуба маладых літаратараў.

Фотарэпарцёры і майстры фільмовай камеры падрыхтавалі рад дакументальных хронік, напрыклад, хроніку пленераў разьбы па дрэве і мастацкіх пленераў, хроніку настаўніцкіх экскурсій і турысцкіх паходаў, спартыўных спаборніцтваў, жыцця школ, культурна-асветных мерапрыемстваў.

Тэатральны настаўніцкі калектыў дзейнічае ад пачатку заснавання клуба ЗНП пад кіраўніцтвам настаўніка Віктара Кабаца. Многа твораў ставілі яны на сцэне ў Доме настаўніка, на ваяводскіх аглядах тэатральных калектываў, а нават і цэнтральных. У мінулым годзе ставілі пастаноўку пад загалоўкам „Думка мая, плыві з анёлам" паводле Цыпрыяна Норвіда, а ў гэтым годзе рыхтуюць сцэнічны твор „Нікэ" Вітольда Віршы.

Ужо традыцыйна настаўнікі арганізуюць балі атракцыёнаў або анучнікаў. Падчас іх адбываюцца конкурсы на найлепшага танцора, спакусніцу, на найлепш зроблены і дапасаваны да фігуры касцюм. Распарадчыкамі ўсіх танцаў, гульняў, конкурсаў, з'яўляюцца незамянімая Эльжбета Міклашэвіч (кіраўнік клуба ЗНП) і найбольш вынаходлівы і дасціпны ініцыятар Віктар Кабац. Гэтыя балі карыстаюцца вялікім зацікаўленнем. Прымаюць у іх удзел настаўнікі з усяго павету.

**Я. Цялушэцкі**



*Веслава Федаровіч.*

# У дружнай сям'і васількоўскіх тэкстыльшчыкаў

Прамысловасць Беласточчыны ў апошнія гады дабілася лепшых прадукцыйных вынікаў як у колькасці, так і якасці прадукаваных вырабаў.

Прадпрыемства ваўнянай прамысловасці імя Эміліі Плятэр у Васількове Беластоцкага павету мае шматгадовую традыцыю. Аднаўленне машыннага парку і больш сучасная прадукцыя — справа апошніх гадоў. Прадпрыемства



*Здзіслава Ляўковіч — маладая прадзільшчыца.*

распачало прадукцыю ў пачатку 1951 года — ваўняныя тканіны, на плашчы, вопратку, мундзіркі для дзяцей і моладзі. У канцы 1968 года ў прадпрыемстве аддадзена ў карыстанне новае, сучаснае прадзільнае абсталяванне і новы прадзільны цэх. У наступным годзе быў разбудаваны ткацкі цэх. У 1972 годзе закончана пабудову новага фарбавальнага цэху. У мінулым годзе ліквідавана частку старых выэксплуатаваных праз гады кросен. На іх месца абсталявана 124 кросны бесчаўнаковыя, дзякуючы якім павялічылася колькасць прадукцыі і аднaчасова значна зменшыўся грукат машын у цэху. І так, у Васількове са старой тэкстыльнай фабрыкі ўзнікае новае сацыялістычнае прадпрыемства. Працуе ў ім 1560 асоб. Гэта цесна звязаны са сваім прадпрыемствам рабочы калектыў. Ёсць спрыяльны клімат: пануе ўзаемны давер. Рабочыя зразумелі, што ў фабрыцы, якая з'яўляецца грамадскай уласнасцю, не можа быць месца на марнатраўства, неахайнасць, балаган, лодарнічанне. Пачалі больш цаніць гэтае супольнае дабро, дбаць аб ім, ашчадней выкарыстоўваць сыравіну. Доказы гэтага маем штодзень. Для прыкладу, абавязацельствы прынятыя з нагоды святкавання 30-годдзя ПНР адносна звышпланавай прадукцыі былі выкананы яшчэ ў першым квартале гэтага года. У выніку іх наш рынак атрымаў 25 тысяч метраў тканін больш.

Дырэкцыя належна задбала аб сацыяльным забеспячэнні рабочых. Цяпер у пабудове знаходзяцца дзіцячыя яслі і прадшколле. У будучыні будзе пабудаваны курортны цэнтр.

* ⁂ *

Калі я выходзіў за фабрычную браму, была пасляабедняя пара. У гэты час выходзяць дамоў рабочыя Эміліі Плятэр з першай змены. Найбольш жанчын, убраных у каляровыя веснавыя плашчы, з тканін, якія, мабыць, самыя выпрадукавалі, задбаныя, модныя, пераважна маладыя.

Іх прадпрыемства ўбірае амаль кожныя сем жанчын з дзесяці сустрэнутых на катавіцкіх, вроцлаўскіх або варшаўскіх вуліцах. І яны ведаюць, што выстройваюць многіх прыгожых і шыкоўных фарсух. І гэта іх ціхая радасць.

У гэтай дружнай сям'і ішлі маладыя дзяўчаты, члены нашага таварыства: Марыя Шышкевіч, Ліля Мішчук, Міля Яношук з прадзільнага цэху, Ірэна Аляксеюк і Зося Макарэвіч з ткальні, Раіса Юроўчык, Галіна Курза, Ірэна Кахановіч, Галіна Крыштопэк і іншыя.

Сярод дзяўчат ішлі юнакі Станіслаў Пікульскі, старшыня мясцовай арганізацыі ЗСМВ, па прафесіі электраманцёр і Юрка Казлоўскі — слёсар-зваршчык. Абодва члены БГКТ.

**Тэкст і фота Я. Цялушэцкага**



*Здзіслава Казлоўская — шматгадовая дасведчаная прадзільшчыца за працай.*

 

# ХХХ-годдзе ПНР у гміне Шудзялава

Гмінны камітэт Фронту адзінства народа, Прэзідыум гміннай рады нарадовай і Упраўленне гміны апрацавалі праграму адзначэння юбілею краіны. Праграма была прынята на супольным пасяджэнні гміннага камітэта ПАРП і ЗСЛ у Шудзялаве.

А вось у скарачэнні наша праграма:

1) Пабудаваць будынак для цэнтра здароўя ў Шудзялаве — кошт 1 мільён 500 тысяч зл. Будзе гэта помнік ХХХ-годдзя. Да чыну пры пабудове прыступяць жыхары гміны. Час выканання — 30 лістапада 1974 г. Першымі да чыну прыступілі жыхары вёскі Слоя.

2) Насупраць Упраўлення гміны будзе заложаны парк. Пасадзім тут 60 штук дрэў, 80 кустарнікаў. Зробім дарожкі, клумбы, пасеем траву. Кошт чыну — 32 тысячы зл.

3) Загаспадарыць пляц вакол упраўлення гміны. Пасадзіць 30 штук дрэў, 12 кустоў, упарадкаваць пляц, паставіць лаўкі. Грошы і матэрыялы дасць упраўленне гміны. Пралажыць тратуары з аднаго боку вуліцы ў Шудзялаве — 200 метраў даўжыні. Грошы і матэрыялы дае гміна. Пасадзіць дрэвы — 400 штук, уздоўж дарогі з Шудзялава ў Навінку (3 км). Чын пры гэтай рабоце ацэньваецца на 12 тыс. зл.

Пасадзіць 100 штук дрэў уздоўж дарогі Піражкі-Астравок (2 км). Грамадскі чын на суму 4.500 зл.

Пасадзіць 200 штук дрэў уздоўж дарогі Баратыншчына-Навіна (2 км). Вартасць чыну 5.600 зл.

Пасадзіць 100 штук дрэў уздоўж дарогі Востраў Паўночны — школа (1 км). Вартасць чыну 4.500 зл.

4) Вёска Востраў-Новы абавязалася чынам направіць сваю вуліцу. Вартасць чыну каля 12 тысяч зл.

Вёска Астровак абавязалася направіць дарогу ад вёскі да шашы, навазіць жвіру, разраўняць і выкапаць равы. Вартасць чыну каля 15 тыс. зл.

Жыхары вёскі Вярхлессе накрыюць дахам сваю рамізу. Вартасць чыну 2.500 зл.

Моладзь з вёскі Шудзялава ўпарадкуе сваю спартыўную пляцоўку.

21 ліпеня адбудзецца ўрачыстая сесія гміннай рады нарадовай. Будзе прадстаўлены даклад на тэму дасягненняў ПНР і гміны Шудзялава. Будзе адкрыта мемарыяльная дошка, прысвечаная ўдзельнікам забастоўкі лясных рабочых у 1933-34 гадах, а ў першую чаргу памяці забітага рабочага Уладзіміра Хомчыка з вёскі Суражкава.

Праграма гаворыць і аб тым, што 21 і 22 ліпеня будзе арганізавана спартакіяда гмін Крынкі, Шудзялава і Бабікі.

**Т. К.**

## Этнаграфічнае акенца



*Вёска Канюкі Бельскага павету.* *Фота Я. Цялушэцкага.*

# У белавежскім кіно

Кіно „Зубр“ у Белавежы з’яўляецца найстарэйшым вясковым кіно на Беласточчыне. Яно было адкрыта ў 1950 г.

Заўсёды людзі любілі хадзіць у гэтае кіно, хоць нядаўна яшчэ зімою, дык трэба было прыходзіць у валенках і кажуху. Старыя печкі слаба награвалі вялікую залу, у якой дзе-недзе дзіркі свяціліся. Летам зноў у вялікі дождж вада часта за каўнер капала.

Усе гэтыя клопаты скончыліся ў 1968 годзе, пасля капітальнага рамонту. А цяпер можна тут глядзець панарамічныя фільмы. У бягучым годзе наладзіцца яшчэ дах і сходы. Гавораць таксама, што будзе новая падлога.

Кіно „Зубр“ за мінулы год паказала 188 фільмаў на 389 сеансах. Глядзела іх 18.548 асоб.

Белавежцы найбольш любяць фільмы прыгодніцкія, ваенныя, заходнія меладрамы. Добрую марку маюць тут савецкія фільмы. У белавежскім „Зубры“ дэманструюцца беларускія фільмы, якія прыцягваюць у кіно заўсёды многа народу. Так, напрыклад, было ў выпадку „Зімародка“ ці „Паланеза Агінскага“. Вельмі папулярны ў Белавежы Дні савецкага фільму.

Найбольш у нас любіць кіно школьная моладзь з пачатковай школы, з лясного тэхнікума, з дома дзіцяці. Дарослыя радзей ходзяць у кіно. Ім у большасці хапае тэлевізар.

Кіраўніком кіно з’яўляецца Лідзія Валкавыцкая. Яна гаворыць: „Стараемся рабіць так, каб людзі заўчасу ведалі пра фільм, які будзе дэманстравацца. Робім выстаўкі. Па ўсім гарадку развешваем плакаты. Шкада толькі, што дзеці іх часта зрываюць. Ад даўжэйшага часу арганізуем спецыяльныя сеансы для школьнай моладзі. Таксама дарослых стараемся прыцягнуць у кіно. Напрыклад, будзе дэманстравацца добры цікавы фільм. Тады іду я ў белавежскія ўстановы і прапаную, каб яны ўсе разам пайшлі на фільм. Часам не даяраюць. Інакш з турыстамі, іх можна было б масава прыцягнуць у кіно, каб экспазітура ЦВФ у Беластоку давала нам больш новыя фільмы. Цяпер пакуль фільм дойдзе да нас, ён пабывае ў 32 мясцовасцях, нават меншых ад Белавежы. Але не найгорш і ў нас. І думаю, што ў бліжэйшы час будзе яшчэ лепш“.

**Пётр Байко**
Фота: **Вайцех Мінкевіч**



*Лідзія Валкавыцкая.*

*У НАШЫМ АБ’ЕКТЫВЕ*



*Вясна на панадворку.* *Фота Р. Сянько*

### ЯШЧЭ РАЗ ПРА ДЗЕРНЯКОВА. ПАД РАЗВАГУ НАЧАЛЬНІКУ ГМІНЫ Ў ГАРАДКУ.

Вельмі цешымся, што начальнік гміны ў Гарадку Я. Матэйчук бачыць патрэбу дапамогі моладзі з вёскі Дзернякова ў вырашэнні яе жыццёвых патрэб, яе праблем. (Адказ паявіўся ў 52 нумары „Нівы“ з 30.XII.1973 г. пад загалоўкам „Ці Дзернякова хоча жыць культурна?“) Прызнае начальнік, што шматлікія вёскі гарадоцкай акругі занядбаныя, нямногія маюць клубы або святліцы. У Дзернякове таксама няма ні клуба, ні святліцы. Ёсць аднак моладзь, а яна хоча жыць культурней. І слушна. Ёсць у Дзернякове пустуючы школьны будынак. Невядома толькі чаму частку яго займае прыватны кватарант з сям’ёю. Хіба гмінным уладам гэта невядома? А вось клуб вельмі прыдаўся б.

У сваім адказе начальнік гміны закрануў справу адносна пасадкі дрэўцаў у Дзернякове. Хіба можна іх было садзіць тады, калі зямля была замерзшая? Бо дрэўцы былі сюды прывезены ў такую пару. Як на злосць усім тым, хто выявіў тайну, што гмінныя ўлады паабяцалі даць дрэўцы і пасля забыліся пра гэта.

Мяркуем, што начальнік Гарадоцкай гміны скажа ў гэтай справе сваё слова. Слова, справай моцнае.

Яшчэ адно. Начальнік гміны ў Гарадку ў сваім адказе спасылаўся на выказванні намесніка старшыні гарадоцкага ГС Я. Налівайку. Прадстаўнік праўлення ГС адзначыў, што дзернякоўскай моладзі нічога не трэба і што яе няма. Водгук з боку самай моладзі з Дзернякова, думаем, зараз ужо вядомы. Старшыня бачыць толькі нерэнтоўнасць. Вось, напрыклад, калі б адкрыць у Дзернякове клуб або невялічкую краму з асноўнымі прадуктамі. Можна разумець гандлёвыя меркаванні старшыні ГС-у. Аднак хто калі культурна-асветную дзейнасць мераў залатоўкамі так званых затрат?! У гэтай галіне грамадскага жыцця сапраўдныя затраты ўзнікаюць толькі тады, калі няма менавіта гэтай культурна-асветнай дзейнасці. Дык маем надзею, што знойдзецца спосаб, каб дапамагчы моладзі ў яе імкненнях да болей культурнага жыцця. Яна чакае нечага новага, сучаснага, неабходнага, каб парушыць звычайную жыццёвую плынь прыгарадоцкай вёскі.

**Янка Цялушэцкі**

## З маёй званіцы

### ЧАМУ Ў КАРОВЫ ХВОСТ УНІЗ РАСЦЕ?

Іду я сабе спакойненька ў малочны бар — перакусіць, калі тут мяне хтосьці хлясь па плячы. Зірнуў — дзядзька ў акулярах, жывот бочачкай.

— Што, — кажа, — не пазнаў, мусіць? А я ж, — кажа, — Пшчынскі. Ёзік. Ну той, што з табою на апошняй лаўцы ў пачатковай школе сядзеў. Матэматыку ў цябе заўсёды спісваў.

— Ага! — Сцяміў я ўрэшце. — Хоць, ведаеш, калі б не сказаў, не пазнаў бы. Нічога, не бяда. Гады ідуць, чалавек расце. Я часамі нават сам сябе не пазнаю.

— А куды гэта ты топаеш?

— Вось паесці сабраўся.

— Во як добра. Бо і я. Разам і паабедаем, старыною трахнём. Сядай, паехалі!

Невядома калі мяне каўтнула чорная „Волга“. — Дуй у рэстаран, — кінуў Ёзік шафёру. Паплылі.

У рэстаране Ёзік загадваў далей.

— Нам, — кажа, — жытнёвачкі бутэльку, піва лепшага, калі ёсць, два разы адбіўную. Ну і чаго б ты яшчэ хацеў?

Нервозна перабіраю ў кішэні дробныя ды паперкі. Больш 100 злотых не набярэцца. Можа не хапіць.

А Ёзіка я ўжо ўспомніў. Сыценькі такі, заўсёды добра апрануты, ён, і праўда, са мною на адной лаўцы сядзеў. Галава ў яго самога варыла слаба і мы, вясковыя хлапчукі, за цукеркі, якіх ён не шкадаваў, ахвотна яму давалі спісваць і матэматыку, і фізіку, і наогул што трэба. На дзіва нам усім, ён лёгка паступіў у сярэднюю, а пасля і ў вышэйшую школу. Нават я, найлепшы, здаецца, вучань, меў цяжкасці. А яму ўсё само давалася.

— Ты ведаеш, — кажу, — навошта нам заказваць столькі. Я спіртнога не надта, ну і дома паеўшы. Можа вось так што лёгенькае перакусім, пасядзім, пагутарым ды і разыдземся кожны ў свой бок.

— А ты не таго. Не бядуй! — Ёзік на тое. — Столькі год не бачыўшыся, бутэлечку распіць не грэх. Ну, і вядома, што на мой кошт. Я ж запрашаў. Расказвай лепш, што ў цябе. Што робіш, дзе працуеш? Бо я, як бачыш, у дырэктарах. Усе, так сказаць, плады-ягадкі ў вобласці да мяне належаць. Уся кантрактацыя, купля, перапрацоўка. Справа во! Людзям добра зробіш, яны і цябе не пакрыўдзяць. Асабняка майго не бачыў? Шкада. Палац, браток, не домік. Ну, а што ў цябе?

А ў мяне што быць можа? Я чалавек звычайны. Выкладчыкам беларускай мовы працую. А пасля працы ў дакументах старых корпаюся і ў літаратурных матэрыялах. Некаторыя пытанні апрацоўваю. Рыхтуюся да дактарату.

— Эх! І яшчэ ж найлепшым вучнем калісь лічыўся. Вось што значыць марнаваць здольнасці. Таксама цябе паперла. У настаўнікі. Ды яшчэ беларускую мову выкладаць. Калі б яшчэ матэматыку ці нешта падобнае. Пальнуў бы пару двоек — і ўжо бацькі з кошычкам бягуць. З адной зарплаты, браток, сёння не пражывеш!

Ёзік са смакам перакульнуў чарку і, закусваючы, цягнуў далей.

— Пераходзь ты лепей да мяне працаваць. Што? Раскоша — ведаеш. Пункцік скупу табе выбярэм што трэба. Тут не даважыш, там не дамерыш — будзеш жыць. Камбінацыя, браток, толькі камбінацыя ў сённяшні час стварае адпаведныя ўмовы. А хто не хоча альбо не ўмее, таму само жыццё камбінацыю з трох пальцаў, фігу значыцца, пад нос падсуне. Ну, як, згодны?

— Не, — кажу. — Не па мне гэта. Не дам я рады. Прывык я, ведаеш, да сваей працы і, што дзіўнейшае, прывык нават жыць на сваю зарплату. Скромна то скромна. Але спіш спакойна.

— Дурніцы гародзіш, — абурыўся Ёзік. — Ніколі не зразумею. Даюць такому, як ты, чалавеку, здаецца, магчымасць скарыстаць, разгарнуцца, зрабіць, як кажуць, кар’еру, у рай за вушы яго цягнуць, а ён не! Пры сваёй бядзе ўпіраецца. Ну чаму? Дзеля чаго? Дурная рыба і тая, здаецца, шукае дзе глыбей. А гэта чалавек.

Тут мяне ўжо кранула.

— Нічога ты, — кажу, — і не зразумееш. Пляцеш толькі абы што. Ну якая ў мяне бяда? Не горш за іншых жыву,



 

 

## Куток практычных ведаў




### КАЛІ ЧАКАЕШ ДЗІЦЯЦІ

Няма нічога больш цудоўнага за мацярынства. Адчуванне першага штуршка дзіцяці, гэтай першай весткі аб тым што малыш існуе, выклікае радасць і хваляванне ў будучай маці.

Дзіця пачынае развівацца задоўга да таго часу, пакуль паявіцца на свет. Як жа працякае яго невідочнае жыццё, што спрыяе, а што перашкаджае яму?

Цяснейшая сувязь паміж маці і будучым дзіцём ажыццяўляецца праз дзіцячае месца. З крыві маці плод атрымлівае кісларод, ваду, вітаміны, а ў замен аддае непатрэбныя прадукты сваёй жыццедайнасці — вуглекіслату і шлакі. Бар'ер паміж крывёй маці і будучага дзіцяці нязвыклы: свабодна прапускаючы адны рэчывы, ён мае здольнасць затрымліваць іншыя або тармазіць іх пераход. Аднак дакладныя механізмы гэтай рэгуляцыі могуць аказацца неадпорнымі пры сустрэчы з нязвыклымі для арганізму чалавека хімічнымі рэчывамі, таксінамі мікробаў і г.д. Акрамя таго прасякаемасць дзіцячага месца можа змяніцца пры розных захворваннях маці ці пры складанай цяжарнасці (таксікозах, рэзус-канфлікце і г.д.).

Дрэнна ўздзейнічае на плод недахоп кіслароду, а таксама пераграванне, пераахалоджванне, лучавая радыяцыя, мікраарганізмы і выпрацоўваемыя імі таксіны, некаторыя хімічныя злучэнні. Вось чаму жанчына не павінна лячыцца сама.

Парушэнне развіцця зародка і фарміраванне ўсіх яго сістэм адбываецца ў раннія тэрміны цяжарнасці. У першыя 7—9 тыдняў плод асабліва падатны для розных адмоўных знешніх уплываў. У сувязі з гэтым можа назірацца затармажэнне росту арганізма будучага дзіцяці, розныя парокі яго развіцця, функцыянальная непаўнавартасць і, нарэшце, гібель плода. Таму жанчына, з самага пачатку цяжарнасці павінна знаходзіцца пад пастаянным кантролем доктара і акушэркі.

На працягу цяжарнасці для жынчыны неабходны акрэслены рэжым працы і адпачынку. Ні на вытворчасці, ні дома будучая матка не павінна стамляцца, выконваць працу, звязаную з пад'ёмам цяжкіх рэчаў, з вымушаным сагнутым палажэннем цела і г.д. Але яна можа і павінна абавязкова працаваць. Прывычная праца карысна для кожнай здаровай цяжарнай жанчыны.

Цяжарная жанчына павінна сачыць за чысцінёй скуры, бялізны, вопраткі, падтрымліваць парадак у хаце.

Неабходна правільна падрыхтаваць грудзі да кармлення дзіцяці. Для гэтага рэкамендуецца малочныя жалёзы і саскі абмываць цёплай вадой з дзіцячым мылам, а затым прасушваць іх махровым ручнікам. Добра кожны дзень па 10-15 мінут рабіць паветраныя ванны.

Вопратка цяжарнай жанчыны павінна быць свабодная. Не можа сцягваць грудную клетку і жывот (асабліва гэта важна ў другой палове цяжарнасці).

Пачынаючы з сярэдзіны цяжарнасці, жанчына павінна насіць бандаж, які перашкаджае празмернаму расцягванню мышц жывата і садзейнічае правільнаму палажэнню плода. Абутак павінен быць свабодны, на шырокім нізкім абцасе.

Страва павінна быць смачнай, прыгожа падрыхтаванай, у ёй павінна быць неабходная колькасць бялкоў, тлушчаў, вугляводаў, мінеральных салей і вітамінаў. Развіваючамуся плоду неабходны для пабудовы яго шкілету кальцый і фосфар. Іх ён атрымлівае ад маці.

У другой палове цяжарнасці варта пазбягаць мясных і рыбных страў, замяняючы іх фруктовымі, малочнымі і гароднінай. Прынамсі мяса і рыбу ўжываць толькі ў вараным выглядзе. У апошнія месяцы перад родамі пажадана, каб жанчына, пазбягаючы атлушчэння, абмяжоўвала сябе ў ежы, багатай вугляводамі (цукар, мёд, варэнне, цукеркі і інш.). У той жа час трэба павялічыць прыём малочных і раслінных блюд, а асабліва ягад, фруктаў. У рацыён неабходна ўключаць прадукты, у якіх шмат поўнавартаснага бялка (малако, тварог, кефір, яечкі і інш.).

З тлушчаў рэкамендуецца масла і алей. Неабходна абмежаваць ужыванне бараняга, валовага і свінога тлушчу. Не варта дадаваць ніякіх вострых прыпраў. Цяжарная жанчына не павінна курыць і ўжываць алкагольныя напіткі.

*Эскулап*




Дарагое „Сэрцайка"!

Жыву я ў невялікай вёсцы і разам з бацькамі працую на гаспадарцы. Моладзі ў нас нямнога, але прыязджаюць хлопцы і дзяўчаты з суседніх вёсак і мы часта арганізоўваем супольныя забавы. На адной такой забаве я пазнаёмілася з Юркам — хлопцам з суседняй вёскі. Было гэта два гады таму назад. Спадабаўся ён мне, а я яму. Часта Юрка да мяне прыязджаў. Але вось год таму назад пазнаёмілася я з Толікам. Прыехаў ён у нашу вёску разам з бацькамі, якія купілі тут гаспадарку. Толік спадабаўся мне з першага погляду. Старалася я бываць там, дзе магла яго спаткаць. Адным словам, рабіла ўсё, каб і ён звярнуў на мяне ўвагу. І ўдалося мне гэта. Толік пачаў са мной хадзіць. Кожную вечарыну мы праводзілі разам. Толік адводзіў мяне дамоў. Быў вельмі ветлівы, гаварыў, што кахае мяне і ніколі мне не прыйшло ў галаву, што мяне пакіне. Аднак сталася найгоршае. Ужо другі месяц Толік кахае маю сяброўку. Яны разам ходзяць, а на мяне ён нават увагі не звяртае. Калі праходзіць міма, дык не гляне ў мой бок. Мусіць перастаў ён ужо мяне кахаць. Але чаму? А можа даведаўся, што я з Юркам хадзіла, і таму пакінуў? Юрку я кахаю, але маё сэрца сумуе па Толіку. Парай мне, „Сэрцайка", як вярнуць яго? Што я маю рабіць, каб ён кахаў мяне надалей так, як спачатку?

**Соня з Б.**

Соня! Чаму пакінуў цябе Толік — цяжка сказаць. Думаю, проста іншая дзяўчына яму больш спадабалася, і гэта яна завалодала яго сэрцам. А спосабу на тое, каб вярнуць каханне, якое адышло, на жаль, няма. Нават Паломскі спявае: Kiedy miłość odchodzi, nie zatrzymuj jej siłą..." Але не падай духам! Ты ж пішаш, што кахаеш Юрку, свайго папярэдняга хлопца. А калі і ён цябе, дык думаю, прабачыць твой паступак і ўдасца наладзіць табе з ім кантакт. А калі і не, дык напэўна трапіцца яшчэ іншы хлопец, які спадабаецца табе больш ад папярэдніх. **„Сэрцайка"**

## Ф·А·Л·Ь·К·Л·О·Р

112

*ЛЮБОЎНАЯ*







*Каліна-маліна, чэрвона ягода.*
*Чэго ж выплакуеш, дзевуленьку млода?*
*Выплакуе тэго — нешчасця своего.*
*Згубілам, страцілам вянэчка своего.*
*Згубілам, страцілам по воду ідонцы,*
*А Ясё го зналяз з ночлегу ядонцы.*
*— Оддай, Ясю, оддай, бо ты его страціш.*
*Як мама сен дове, то дрого заплаціш,*
*Як мама сен дове, то дрого заплаціш.*
*— Я оддаць не оддам і плаціць не бэндэ —*
*Сядам на коніка, поядэ до іншэй.*
*Поядэ, поядэ, гдзе мне конь понесе —*
*Ты бэндзеш плакала в яворовым лесе,*
*Ты бэндзеш плакала в яворовым лесе.*
*В яворовым лесе кукавоньна кука.*
*Бодай шчэнсця не мял, кто богатэй шука,*
*Бодай шчэнсця не мял, кто богатэй шука.*
*Богата — рогата, шчэ й до тэго пышна,*
*А бедна дзевчына, як в садоньку вішня,*
*А бедна дзевчына, як в садоньку вішня.*

Ад Антаніны Аляксейчык, год 71, вёска Зверкі Беластоцкага павету, запісаў 10 студзеня 1974 г. Мікалай Гайдук. Нотны запіс з магнетафоннай стужкі зрабіў Эдуард Гойлік.

<

дзяцей гадую. Ясна, што асабняка не пабудую, ды „Волгай" не буду раз'язджаць. Ды і на хрэн мне гэта здалося? З часам аднак і я які скромны чатырохкалёсны транспарт набуду, не сумнявайся. Гэта па-першае. А па-другое, ці ты мне можаш, Ёзік, вытлумачыць, напрыклад, „чаму ў каровы хвост уніз расце?"

— Ну як гэта ўніз? Пэўна, што не ўгору, — здзівіўся той. — І няма што тут тлумачыць. Проста расце і ўсё.

— Вось і бачыш. Мне таксама табе тлумачыць няма чаго. І так не зразумееш. Я проста такі ўжо і ёсць. Звычайны, працоўны чалавек. Такім быў, такі цяпер, такім хачу быць і такім ужо застануся. Не магу іначай і ўсё.

— Тады табе ад жыцця столькі, колькі з-пад таго хваста і будзе, — злосна буркнуў Ёзік.

Падбег афіцыянт. Ён чамусьці падумаў, што яго клічуць. Мы расплаціліся па палове. Ёзік залез у „Волгу", а я пайшоў на прыпынак аўтобуса. Кожны ў свой бок, кожны сваім шляхам.

* ❊ *

Нядаўна я даведаўся, што жыццё падсунула Ёзіку не прадбачаную ім камбінацыю. Камбінацыю з некалькіх жалезных прутоў, крыж-накрыж, ды моцнага замка на дзвярах. Памясціў яго, так сказаць, у адпаведныя ўмовы. Бываюць жа ж фокусы? Нездарма „Волга" — хвалёная машына. Глядзі, куды завезці можа? **Ларс**



*Вазачка.* *Фота Р. Сянько.*

## АЛ. ІГНАЦЬЕЎ
## ЛІСТАПАД У АЎГУСТОЎСКІХ ЛЯСАХ

Касцянецкі прынёс бутыль і наліў дзве шклянкі сівухі.

— А чаму дзве? Хіба не бачыш, нас трое?

— Прашу выбачэння, пан афіцэр, але той жолнеж не п'е.

— Чаго брэшаш, стары. Рускі салдат, ды каб гарэлкі не піў. Шклянку, кажу!

Касцянецкі наліў трэцюю шклянку.

— Цябе як завуць, салдат? — спытаў Лузан незнаёмага.

— Пятро.

— Тёзка, значыць. Ну, будзем здаровы, Пятро. За знаёмства!

— Таварыш лейтэнант, ды я... нельга мне, — пачаў адгаворвацца салдат, але Лузан перапыніў яго:

— Што-о? Са мной... А ну ўстань! Устань, кажу!

Салдат падпарадкаваўся, але рукі з кішэні не выняў, і лейтэнант канчаткова зразумеў — чужы.

Ён сунуў шклянку з самагонкай пад нос незнаёмцу. Той, нарэшце, узяў шклянку, узяў у правую руку і асушыў яе ў некалькі глыткоў. На імгненне зажмурыўся, бо шнапс быў моцны, а калі расплюшчыў вочы, убачыў на ўзроўні грудзей чорны кожух аўтамата.

— Рукі ўгору! — ціха загадаў Гарадноў. — Рукі, рукі!

— Кіньце, славяне, што за жарты, — ахрыпла прамовіў салдат, але нехаця ўзняў рукі.

— Абшукаць затрыманага! — строга скамандаваў Лузан.

Гарадноў выцягнуў з яго кішэні парабелум, курок стаяў на баявым узводзе. У другой кішэні была граната-лімонка.

— Гэта навошта?

— Чаго пытаеш? Іду лесам, адзін, ці мала што...

З кішэні гімнасцёркі Гарадноў выняў салдацкую кніжку і перадаў лейтэнанту.

„Спецыяльны атрад, сержант Пінчук", — прачытаў ён, і раптам на яго паляцеў стол, з бразгатам пакацілася па падлозе гільза газоўкі.

— Гарадноў, ліхтар!

Успыхнуў прамень ліхтарыка і асвятліў дзве сашчэпленыя фігуры, якія качаліся на падлозе. Гарадноў кінуўся на дапамогу Баляславу, і яны адразу ўтаймавалі прыткага незнаёмца.

— Дзякуй, Баляслаў, — сказаў зампаліт, — і вам таксама, таварыш Касцянецкі. Птушка, здаецца з драпежнай чарады.

...Назаўтра раніцай са штабу паведамілі, што затрыманы сержант Пінчук — адзін з парашутыстаў, засланых на ўчастак заставы Глебава. Непагадзь і пошукавыя групы выгналі яго з лесу ў вёску, дзе ён збіраўся адседзецца.

— Дзякуй Касцянецкаму, — сказаў Глебаў, — а вы, Пётр Пятровіч, проста артыст, бліскуча сыгралі.

Лузан быў задаволены пахвалой начальніка, бо хваліў ён рэдка, і калі рабіў гэта, дык сапраўды было за што.

— Людвіг з атрадам нам моцна памог, — працягваў Глебаў, — без яго наўрад ці загналі б мы гэтага ваўка.

— Ад'язджае Людвіг, — паведаміў зампаліт. — А вось здаецца, і ён.

У дзверы пастукалі, і сапраўды ў пакой увайшоў капітан.

— Еду ў войска, — сказаў ён, — зайшоў развітацца. Рады быў з вамі пазнаёміцца.

— Дзякуй за дружбу і за дапамогу, — адказаў Глебаў.

— На Варшаву цяпер? — спытаў Лузан.

— На Варшаву і Берлін.

— Магчыма, вас правесці? — прапанаваў начальнік заставы.

— Ну навошта. Мы паедзем разам з солтысам, днём. Да горада недалёка, коні добрыя. Аўтаматы і гранатаў у нас ёсць. Ды і пасля нашай прачоскі, думаю, што ў лесе цяпер чыста...

Людвіг памаўчаў, як бы падумаўшы, ці варта гаварыць далей, і ціха дадаў:

— Прашу вас, паберажыце Стасю. Дапамажыце ёй...

Ён пацісну афіцэрам рукі і хутка пайшоў.

— Што гэта значыць? — Глебаў паглядзеў на зампаліта. — Вы што-небудзь зразумелі, Пётр Пятровіч?

— Пакуль што не, — прызнаў Лузан.

(Працяг будзе)



 

# Як я быў джэнтльменам

Да аўтобуснага прыпынку падыйшоў, калі там заканчвалася традыцыйная пасадка: задняя пляцоўка ціснулася наперад, пярэдняя ціснулася назад, сярэдзіна гераічна трымалася пасярэдзіне, вадзіцель безнадзейна-хрыплым тэнарам упрошваў прайсці далей.

Хоць я і спазняўся на працу, вырашыў не ціснуцца. Нязручна ўсё-такі даросламу, выхаванаму чалавеку пры партфелі і капелюшы мяць нечыя рэбры ці, тым больш, таліі. Сяду спакойна ў іншы аўтобус. Тым больш, што астаўся на прыпынку сам-адзін.

Праз некалькі хвілін, калі вынырнуў з роздумаў і азірнуўся, ззаду ўжо вырасла немалая чарга. Адразу за мною стаяла некалькі жанчын і, калі надыйшоў аўтобус, я ветлівым жэстам запрасіў іх першымі ўвайсці ў сярэдзіну, а сам скромна стаў збоку.

Не ведаю, ці прыкмецілі мой джэнтльменскі жэст жанчыны, якія дружна рынулі ў дзверы, затое іншыя пасажыры мяне прыкмецілі.

— І чаго гэта тырчаць збоку — стаў бы, як усе.

— Думае, што разумнейшы за іншых.

— У чарзе трэба стаяць, малады чалавек.

— Бач, прысуседзіўся!

Засаромлены, я нешта мармытаў на сваё апраўданне і пачаў ціснуцца ў чаргу.

— Вы тут не стаялі, — ласкава адпіхнуў мяне грамадзянін у крацістым шаліку.

— Сумленне трэба мець, сынок, — дакорліва паківала галавою бабулька, хаваючы ў сетачку незакончаную шкарпэтку і клубочак са шпіцамі.

— Туды во. У хвост! — бесцырымонна ўзяла мяне за рукаў дзябёлая маладзіца і паказала на канец чаргі. — Нахабнік...

Бачу, што аўтобус будзе ад'язджаць, адчайна кідаюся да дзвярэй.

— Ты чаго пхаешся?

— А я стаяў!

— Стаяў... Саджаць такіх трэба.

— Ну і моладзь пайшла — жах.

— Жанчын жа перад сабою прапусціў, якога ж вы чорта!

— Ты глядзі — яно яшчэ і лаецца?!

На маім плячы ўпэўнена лягла рука міліцыянера.

— Пройдземся, успакоімся.

Калі прыбег з камісарыяту міліцыі на працу, мінула добрая гадзіна рабочага часу. Безадмоўны ў такіх выпадках напісаны закон сутыкнуў мяне ў дзвярах з кірaўніком.

— Што, зноў аўтобус забуксаваў? — спытаў ён іранічна. — Перадайце вадзіцелю, каб гэта быў апошні раз.

На другі дзень на працу я прыехаў у пару.

**Яўген Каладзейчук**









*Без слоў.*

## НЯКЕМЛІВАЯ ЖОНКА

Жонка збіраецца ў магазін. Пытаецца ў мужа:

— З выпадку свята табе купіць бутэлечку піва ці яшчэ што?

— Купі, калі ласка, бутэлечку піва і „яшчэ што“.

— Ну добра, куплю табе піва.

— Эх, і някемлівая ж ты ў мяне...

## НЕ ТУРБУЙЦЕСЯ

Хлопчык прыйшоў да суседа:

— Мама прасіла, каб вы пазычылі ёй тузін яек, якія яна магла б падкладваць пад курыцу.

— Дык, наколькі я ведаю, у вас няма курыцы.

— Не турбуйцеся. Брат пайшоў да другога суседа пазычаць курыцу!

## ГУМАР З ...

### ШЧЫРАЕ СЛОВА ЖАНДАРА

Пасля дванаццаці гадзін рабочага дня рабочы ідзе ў карчму. Ён атрымаў палучку. Там пакіне ён увесь свой заработак.

Ідзе, пахістваецца. Насустрач — жандар.

— Ну, што, нажраўся? Штраф давай!

Аддаў рабочы апошняга чырвонца на штраф, але яго вельмі за сэрца зачапіла, і ён голасна сказаў:

— Ну і дурак жа цар!

— Как, как? Ты імеешь права его велічество дураком называць?! У паліцыю, сукін сын!

Дзверы паліцэйскай адчыніліся, і жандар піхнуў туды рабочага.

— Ваша высокародзіе, — да начальніка, — этот негодзяй назвал нашего царя дураком!

— Я ж не на нашага цара сказаў, — кажа Іван, — а на турэцкага!

— Он врот, ваша высокародзіе! Он на нашего царя сказал, потому, што дурнее царя, как наш цар, нету!



— *Мне толькі запальнічку заправіць!*

**...Каб самому выглядаць чысцейшым, ён абліваў брудам іншых.**

**...— Бегаць вучыўся! — хваліўся Заяц, уцякаючы ад Ганчакоў.**

## ПАВАЖНАЯ ПРЫЧЫНА

— Ты чаму спазніўся на працу? — спытаў рабочага начальнік цэха.

— Жонка ручнік шукала.

— А ты?

— Я чакаў, пакуль высахну.

## МОЛАДА-ЗЕЛЕНА

— Я ажаніўся, Васіль, — хваліцца знаёмы знаёмаму, — харошую дзяўчыну ўзяў.

— А хто ж яна?

— Васілішына Маня, ведаеш яе?

— Чаму б не ведаць. Яна ж ужо тройчы была замужам.

— Дык тады яна яшчэ непаўналетняй была — памылялася.

## ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

*Па просьбе Міколы Варанецкага з Альхоўкі Гайнаўскага павету змяшчаем песню*

### КАЗАК УХОДИЛ НА ВОЙНУ

*(из кинофильма „В шесть часов вечера после войны)*

**Стихи В. Гусева, музыка Т. Хренникова**

На вольном, на синем, на Тихом Дону
Походная песня звучала.
Казак уходил на большую войну,
Невеста его провожала.

„Мне счастья, родная, в пути пожелай,
Вернусь ли домой — неизвестно“.
Казак говорил, говорил ей: „Прощай!“
„Прощай!“ — отвечала невеста.

Над степью зажегся печальный рассвет,
Донская волна засверкала.
„Дарю я тебе на прощанье кисет,
Сама я его вышивала.

Будь смелым, будь храбрым в жестоком бою,
За русскую землю сражайся
И помни про Дон, про невесту свою,
С победою к ним возвращайся“.

*З САВЕЦКАГА ДАРОЖНАГА ГУМАРУ*





— *Мая жонка любіць сукенкі ў клетачку. — А мая — у кветачку...*

## ДЗЯДЗЬКА

— Дарагая, у нас вельмі маленькая кватэра, а дзядзька Юзік, які папрасіўся пераначаваць у нас адну ноч, жыве з намі другі год. Пара з гэтым канчаць! Я хачу, каб ты з ім пагаварыла!

— А чаму я?

— Ну, а хто ж? Гэта ж твой дзядзька?

— Як мой? Я ўвесь час думала, што гэта твой дзядзька!

## ЧУЛЛІВЫ

Горкі расказ бедняка аб сваіх няшчасцях зрабіў на міліянера глыбокае ўражанне. Ён паклікаў лакею і, выціраючы слёзы, жаласным голасам сказаў:

— Джон, выведзі гэтага небарака. Ён разрывае мне сэрца.

## ВЕРШЫ-ЗАГАДКІ

Ён вядомы ўсім даўно.
Што ні справа — пад сукно.
— Абмяркуем, дарагі,
Мо праз тыдзень, праз другі...
І ляжыць тых спраў багата
Пад сукном у...

На трыбуне б'е ў грудзі:
— Працаваць з уздымам будзем!
Даць два планы абяцаем,
Словы справай падтрымаем!
А да працы як дайшло,
Больш „уздыму“ не было.
Хто крычыць вось так з трыбун?
Ну вядома ж —...

**М. Радоўскі**



— *Досыць надуваць, таварыш старшыня, гэта вам не справаздачны даклад!*




## ГРЫП І ПАЛІЦЭЙСКІЯ

Вострая эпідэмія грыпу ахапіла ў сакавіку Данію. Рэзкае павелічэнне колькасці хворых выклікала сур'ёзныя цяжкасці на многіх прамысловых прадпрыемствах і ў дзяржаўных установах. Толькі ў Капенгагене за першую палавіну сакавіка было зарэгістравана каля 10 тысяч выпадкаў захворвання грыпам.

Як паведамляе дацкі друк, асабліва вялікую шкоду нанесла эпідэмія дацкай паліцыі. Многія датчане выказваюць меркаванне, што высокі працэнт захворвання сярод паліцэйскіх тлумачыцца іх непамернай загружанасцю ў сувязі з імклівым ростам злачыннасці. Імкнучыся аблегчыць іх лёс, дацкія судовыя органы выступілі нядаўна з прапановай увесці для некаторых катэгорый парушальнікаў такую форму пакарання, як пазбаўленне волі на суботу і нядзелю, на якія прыпадае найбольшая колькасць злачынстваў.

## УРАЧУ — ВЫЛЕЧЫСЯ САМ...

На працягу апошніх многіх гадоў шведскі пастар доктар Людвіг Енсан уладкоўваў сямейныя кансультацыі маладажонам па радыё. Гэты цыкл перадач быў адным з самых папулярных у краіне. Дзякуючы парадам пастара многія сямейныя пары пазбеглі разводу і змаглі захаваць сваю сям'ю. Такога ж ролю дзейнасцю займалася і жонка доктара Енсана. Разам яны выдалі шэраг брашур на тэму, як набыць сямейнае шчасце.

Але на дваццаць другім годзе суменснага жыцця мужа і жонку Енсанаў напаткаў крах: яны вымушаны былі развесціся. Адказваючы на пытанні расчараванай паствы, пастар заўважыў: „Іншага выхаду ў нас не было. Адна справа раіць іншым, другая — самім трапіць у такое становішча“.




**Хто ідзе за стадам — сваёй сцежкі не пратопча.**